ПРАВА
ВЕСНІК АБАРОНЧЫ
ЖНІВЕНЬ, 2013
ГОМЕЛЬСКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ





# Два гады таму быў арыштаваны Алесь Бяляцкі

***4 жніўня спаўнілась роўна два гады з моманту арышту Алеся Бяляцкага — віцэ-прэзідэнта Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека, кіраўніка закрытага беларускімі ўладамі праваабарончага цэнтра «Вясна». Да гэтай даты прымеркаваны Міжнародны дзень салідарнасці з грамадзянскай супольнасцю Беларусі.***

Алесь Бяляцкі быў затрыманы ў Мінску 4 жніўня 2011 года. У лістападзе таго ж года суд прызнаў яго вінаватым ва ўтойванні даходаў у асабліва буйным памеры і асудзіў да чатырох з паловай гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці.

Падставай для крымінальнага пераследу стала наяўнасць у Бяляцкага замежных банкаўскіх рахункаў, сродкі з якіх выкарыстоўваліся для праваабарончай дзейнасці. Адкрыць рахункі ў Беларусі не ўяўлялася магчымым, так як цэнтр «Вясна» працуе нелегальна — улады неаднаразова адмаўлялі ў афіцыйнай рэгістрацыі арганізацыі. Суд таксама не прыняў да ўвагі тое, што шкода, які нібыта нанёс дзяржаве Бяляцкі, быў цалкам пагашаны за кошт добраахвотных ахвяраванняў грамадзян.

Праваабаронца адбывае пакаранне ў Бабруйску, ён афіцыйна прызнаны вязнем сумлення. Да даты арышту Алеся Бяляцкага прымеркаваны Міжнародны дзень салідарнасці з грамадзянскай супольнасцю Беларусі. Акцыя прысвечана «сучасным гуманістам і летуценнікам, а таксама тым людзям і арганізацыям, якія ўвасабляюць сабой Беларусь свабоды і супрацыву». Акцыі салідарнасці рыхтуюцца ў гэтых і іншых краінах свету.

Што да Беларусі, то заяўкі на правядзенне 4 жніўні пікетаў салідарнасці з палітвязнямі былі пададзеныя ў больш чым дзесяці гарадах, аднак усюды правядзенне акцый было забаронена мясцовымі ўладамі.

Напярэдадні Дня салідарнасці з грамадзянскай супольнасцю Беларусі Міжнародная федэрацыя правоў чалавека чарговы раз заклікала беларускія ўлады неадкладна вызваліць свайговіцэ-прэзідэнта Алеся Бяляцкага. Неадкладна вызваліць Бяляцкага і спыніць пераслед праваабаронцаў заклікаў і спецдакладчык па Беларусі Рады ААН па правах чалавека Міклаш Харашці, а таксама прадстаўнік Дзярждэпа ЗША.

**http://spring96.org/**

## “Вясна” патрабуе неадкладнага і безумоўнага вызвалення Алеся Бяляцкага і ўсіх палітычных зняволеных. Заява.

Праваабарончы цэнтр “Вясна” патрабуе неадкладнага і безумоўнага вызвалення Алеся Бяляцкага і ўсіх палітычных зняволеных Беларусі.

4 жніўня спаўняецца два гады з моманту арышту нашага сябра і калегі, старшыні Праваабарончага цэнтра “Вясна”, віцэ-прэзідэнта Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека, асуджанага на чатыры з паловай гады пазбаўлення волі.

Пазбаўленне волі аднаго з вядомейшых і аўтарытэтных праваабаронцаў Беларусі стала вынікам шматгадовай рэпрэсіўнай палітыкі ўладаў ў дачыненні да грамадзянскай супольнасці краіны, з'яўляецца расправай за прынцыповую шматгадовую праваабарончую дзейнасць Алеся Бяляцкага.

**Працяг на стар. 2**

# “Вясна” патрабуе неадкладнага і безумоўнага вызвалення Алеся Бяляцкага і ўсіх палітычных зняволеных. Заява.

**Пачатак на стар. 1**

Дзейнасць Алеся Бяляцкага і створанага ім у 1996 годзе Праваабарончага цэнтра “Вясна”, якая ўключае ў сябе ў тым ліку фінансаванне рэгулярнай праваабарончай актыўнасці арганізацыі, з'яўляецца цалкам легітымнай і адпавядае прынцыпам, закладзеным у Дэкларацыі аб праве і абавязку асобных асоб, груп і органаў грамадства заахвочваць і абараняць агульнапрызнаныя правы чалавека і асноўныя свабоды (Дэкларацыі ААН аб праваабаронцах), а таксама палажэнням Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах.

Дадзеная пазіцыя была неаднаразова пацверджана Саветам па правах чалавека ААН, які аднагалосна заклікаў усе дзяржавы забяспечыць, каб заахвочванне і абарона правоў чалавека не лічыліся злачынствам, і каб праваабаронцы не былі пазбаўлены магчымасці карыстацца ўніверсальнымі правамі чалавека, датычнымі іх працы, як індывідуальна, так і сумесна з іншымі. Гэтая ж пазіцыя была адлюстравана ў Меркаваннях Працоўнай групы па адвольных затрыманнях Савета па правах чалавека ААН па справе Алеся Бяляцкага.

За мінулыя два гады з моманту арышту Алеся Бяляцкага сітуацыя з правамі чалавека ў краіне не палепшылася і застаецца стабільна цяжкай: зараз у турмах працягваюць знаходзіцца 12 палітвязняў, працягваецца практыка крымінальнага і адміністрацыйнага пераследу грамадзян па палітычных матывах, асноўныя грамадзянскія і палітычныя правы з'яўляюцца скрайне абмежаванымі.

Пазбаўленне волі і ўжыванне іншых спосабаў рэпрэсій за перакананні, грамадскую і палітычную дзейнасць з'яўляецца сведчаннем няздольнасці ўладаў да выбудоўвання дэмакратычнага і плюралістычнага грамадства, імкнення да знішчэння любога іншадумства, глыбокага крызісу прававой сістэмы краіны. У дадзенай сітуацыі пераслед праваабаронцаў, якія аказваюць дапамогу ахвярам парушэнняў правоў чалавека і крытыкуюць урад у сувязі з гэтымі парушэннямі – яскравае сведчанне таго, што ўлады гатовы выкарыстоўваць самыя жорсткія меры дзеля застрашэння апанентаў і ўсяго грамадства з мэтай захавання існуючага палітычага рэжыму ў краіне.

Праваабарончы цэнтр “Вясна” рашуча выступае супраць палітычна матываванага пераследу грамадзян краіны і патрабуе ад уладаў неадкаладнага і безумоўнага вызвалення ўсіх палітзняволеных, аднаўлення іх ва ўсіх грамадзянскіх і палітычных правах.

Праваабарончы цэнтр “Вясна” заяўляе, што працягне сваю легітымную і законную дзейнасць па абароне і адстойванні правоў чалавека ў Беларусі.

**http://spring96.org/**




# ўлады не дазволілі

Шэсце ў падтрымку Алеся Бяляцкага ў Гомелі ўлады не дазволілі, бо па маршруту шэсця размешчаны падземны пераход і будынак выканкаму.

Гомельскі гарвыканкам разглядзеў заяву грамадзян Юрыя Варонежцава, Леаніда Судаленкі і Анатоля Паплаўнага на правядзенне вулічнага шэсця і не даў на масавае мерапрыемства дазвол. Нагадаем, у Гомелі 4 жніўня планавалася правядзенне вулічнага шэсця з мэтай выказвання пратэсту супраць крымінальнага пераследу праваабаронцы Алеся Бяляцкага і іншых палітычных зняволеных.

Цікава, што гарвыканкам нават рашэнне не прымаў па дадзенаму пытанню, як таго патрабуе заканадаўства, а даслаў заяўнікам паведамленне «Аб разглядзе заявы на масавае мерапрыемства». Там гаворыцца, што «узгадніць масавае мерапрыемства не ўяўляецца магчымым, таму што заяўленае месца правядзення вулічнага шэсця (пешаходная частка вуліцы Савецкая) не адпавядае патрабаванням закону «Аб масавых мерапрыемствах». Намеснік старшыні гарвыканкаму Аксана Рудзянок патлумачыла ў лісце, што па маршруту шэсця размешчаны на адлегласці менш за 50 метраў падземны пешаходны пераход, а таксама будынкі выканаўчых органаў.

Чыноўніца дадала, што заяўнікі не выканалі патрабаванне рашэння гарвыканкаму «Аб масавых мерапрыемствах» і не заключылі платныя дамовы з міліцыяй, «хуткай» і камунальнымі службамі. Але, як паказвае практыка, такія дамовы заключыць немагчыма – бо ні «хуткая», ні «міліцыя» не заключаюць дамовы, пакуль няма дазволу гарвыканкаму.

*- Мы ў першы раз замовілі не пікеты, а менавіта шэсце, якое, як зразумела, на пляцоўцы каля ДК таварыства глухіх «Віпра» (адзіная пляцоўка ў горадзе для масавых мерапрыемстваў) не правядзеш. Звяртае ўвагу той факт, што чыноўнікі нават рашэння не прымалі, а абмежаваліся фармальнай адпіскай. Улада па-ранейшаму смела бярэ на сябе адказнасць за парушэнне канстытуцыйных правоў сваіх грамадзян. Будзем абскарджваць тую паперку ў судзе*, - пракаментаваў Леанід Судаленка.



# Гомель: праваабаронца правёў акцыю салідарнасці з Алесем Бяляцкім

**Гомельскі праваабаронца Анатоль Паплаўны 4 жніўня правёў у абласным цэнтры акцыю салідарнасці з Алесем Бяляцкім. Ён распаўсюдзіў сярод жыхароў Гомеля некалькі соцень паштовак з інфармацыяй аб вядомым праваабаронцы, палітычным вязні, які быў арыштаваны беларускімі 4 жніўня 2011 года.**

Паштоўкі былі распаўсюджаны на рынку «Украінскі», на прыпынках грамадскага транспарту ў цэнтры гораду, пачынаючы ад Гомельскага дзяржаўнага універсітэту ім.Ф.Скарыны (тут вучыўся і пачынаў займацца грамадскай дзейнасцю Алесь Бяляцкі).

Мінакі з цікавасцю прымалі паштоўкі, задавалі пытанні, бо многія і не ведалі, што беларускі праваабаронца сядзіць у турме за сваю дзейнасць. Былі і такія, што адмаўляліся браць у рукі паштоўкі, чуючы словы «палітычны зняволены».

«Гэты дзень, 4 жніўня, знакавы для нас, праваабаронцаў. У гэты дзень нашага лідэра кінулі за краты менавіта за яго праваабарончую дзейнасць. Але Алесь Бяляцкі і ў турме на скарыўся: працягвае актыўна працаваць, рыхтуе кнігі да друку, шмат піша. Упэўнены, што Бог і праўда на яго баку, і мы дачакаемся яго на волі. Жадаю Алесю мужнасці», - пракаментаваў Анатоль Паплаўны.

Нагадаем, сёння спаўняецца роўна два гады з моманту арышту Алеся Бяляцкага - віцэ-прэзідэнта Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека, кіраўніка Праваабарончага цэнтра «Вясна». Да гэтай даты прымеркаваны Міжнародны дзень салідарнасці з грамадзянскай супольнасцю Беларусі. Заяўкі на правядзенне 4 жніўня пікетаў салідарнасці з палітвязнямі былі пададзеныя ў многіх гарадах Беларусі, у тым ліку і ў Гомелі, але ўсюды ўлады забаранілі масавыя мерапрыемствы.

Напярэдадні Дня салідарнасці з грамадзянскай супольнасцю Беларусі Міжнародная федэрацыя за правы чалавека ў чарговы раз заклікала беларускія ўлады неадкладна вызваліць віцэ-прэзідэнта арганізацыі Алеся Бяляцкага. З такім жа патрабаваннем выступілі спецдакладчык па Беларусі Савета па правах чалавека ААН Міклаш Харашці і афіцыйны прадстаўнік Дзяржддэпартамента ЗША Мары Харфпо.

2 жніўня пятнаццаць дэпутатаў - Еўрапарламента, Германіі і Швейцарыі - выступілі з сумеснай заявай аб сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі, у якім заклікалі беларускія ўлады «неадкладна і безумоўна вызваліць і рэабілітаваць усіх палітвязняў, а таксама ўвесці маратарый на смяротнае пакаранне». Дэпутаты заклікаюць усе дзяржавы ЕС і еўрапейскіх палітыкаў адмовіцца ад супрацоўніцтва з рэжымам Аляксандра Лукашэнкі да той пары, пакуль іх патрабаванні адносна правоў чалавека застаюцца нявыкананымі

**http://spring96.org/**



# Камітэт па правах чалавека ААН "няправільна" рэгіструе скаргі беларускіх грамадзян

Так лічыць намеснік міністра замежных спраў Беларусі Валянцін Рыбакоў, адказваючы на прэтэнзіі праваабаронцы Леаніда Судаленка выканаць адно з рашэнняў Камітэта ў якім усталяваны факт ужывання да яго забароненай дыскрымінацыі па палітычных матывах, а таксама парушэнне правоў актывіста на вылучэнне кандыдатам у дэпутаты нацыянальнага парламента.

Нагадаем, калі раней чыноўнікі ад знешнепалітычнага ведамства рашэнні Камітэта па правах чалавека лічылі рэкамендацыйным характарам, то цяпер іх пазіцыя падобна змянілася. Мідаўскія чыноўнікі адмаўляюцца прымаць да разгляду прэтэнзіі выйграўшых у сваёй краіны ў ААН беларусаў са спасылкай на нявычарпанне тымі ўсіх унутраных сродкаў прававой абароны.

*- Я звярнуўся да Рыбакова па сваёй справе таму, што па ёй пройдзены ўсе сродкі абароны, ўключаючы Вярхоўны суд і пракуратуру. У гэтай справе беларускія чыноўнікі нават адмовіліся супрацоўнічаць з Камітэтам, нягледзячы на неаднаразовыя нагадванні з яго боку. Не разабраўшыся, чыноўнікі лічаць "няправільнай" і гэтую справу. Думаю ўсё гэта адбываецца ў святле нядаўняй заявы кіраўніка знешнепалітычнага ведамства Уладзіміра Макея аб палітызаванасці правоў чалавека ў свеце,* - падкрэсліў Л. Судаленка.

Праваабаронца адзначае, што больш 150 краін свету пагаджаюцца з парадкам рэгістрацыі скарг у ААНаўскім Камітэце і толькі беларускія чыноўнікі шукаюць дробныя прыназоўнікі для таго, што б хоць неяк апраўдаць сваю пазіцыю па невыкананні міжнародных абавязацельстваў у галіне правоў чалавека, заяўляючы, напрыклад, аб падвойных стандартах, палітычнай ангажаванасці альбом парушэнні міжнароднай інстанцыяй сваіх унутраных правілаў.

# Гомель:
# АГП паскардзілася ў ААН

*Актывістка Гомельскай абласной арганізацыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі (АГП) Наталля Шчукіна ад свайго імя а таксама ад імя іншых каля двух дзесяткаў партыйцаў накіравалі калектыўную скаргу ў Камітэт па правах чалавека ААН. Заяўнікі лічаць, што іх правы на свабоду мірных сходаў і выказванне меркаванняў былі парушаны.*

Напрыканцы 2012 году АГП планавала правесці па ўсёй краіне масавыя мерапрыемствы, на якіх планавалася звярнуць увагу супраць продажу нацыянальнага набытку нашай краіны шляхам серых схем прыватызацыі, а таксама распавесці аб кампаніі “За сумленныя выбары без Лукашэнкі”. На 19 снежня толькі ў Гомелі было заяўлена 19 такіх пікетаў, але гарадскія ўлады не дазволілі ні аднаго із іх. Усе суды – раённы, абласны, Вярхоўны, дзе абскарджвалі дадзенае рашэнне партыйцы, сталі на бок уладаў.

У скарзе ў Камітэт па правах чалавека ААН заяўнікі звяртаюць увагу, што ў 500-тысячным горадзе Гомелі ўлады вызначылі толькі адно месца для правядзення пікетаў і мітынгаў, а за правядзенне мірных сходаў грамадзяне, згодна рашэнню гарвыканкама, павінны яшчэ і заплаціць — міліцыі, хуткай дапамозе і камунальным службам. Партыйцы ўпэўнены, што краіна не выконвае свае міжнародныя абавязкі, паколькі нацыянальны закон «Аб масавых мерапрыемствах» утрымлівае двухсэнсоўныя і расплыўчатыя нормы, якія могуць тлумачыцца і тлумачацца па-рознаму.

Наталля Шчукіна разам з іншымі просяць Камітэт ААН устанавіць факт парушэння іх правоў з боку дзяржавы і параіць беларускаму ўраду прывесці закон «Аб масавых мерапрыемствах» у адпаведнасць міжнародным абавязкам.

gomelspring.org

